# ПУЛЬС МЕНШЧЫНЫ

1

Бюлетэнь раённых і гарадзкіх Радаў
БНФ «Адраджэньне» Менскай вобласьці

СТУДЗЕНЬ 2002



222120, Барысаў-15
п/с 641
(01777)6-05-64
sah@crossrd.org.by


# Фронт – гэта беларуская імпэрыя

*Адзін зь вядомых франтаўскіх лідэраў Глыбоччыны ў запале спрэчкі зь менскім сацыял-дэмакратам сьцьвердзіў наступнае. Маўляў, што там вашая Грамада, вось Фронт – гэта сапраўдная беларуская імпэрыя.*

І насамрэч у кожным месьце, мястэчку ці вёсцы можна сустрэць адданага фронтаўца. І няхай гэты чалавек ніколі нават і ня думаў уступаць у шэрагі БНФ «Адраджэньне», няхай моц арганізацыі за гады дыктатуры падупала, аднак вера ў тое, што Фронт – на варце нацыянальных інтарэсаў Беларусі ня згасла.

Больш за тое, у кожным беларусе сядзіць фронтавец. Азірніцеся вакол. Звычайны мужык з мазалістымі рукамі, што вярнуўся з маскоўскіх будоўляў, лепш за Пазьняка распавядзе як трэба любіць Беларусь. І ня трэба ўпадаць у роспач, што ўсё згублена, страчана, збаедана незваротна. Як-раз такі не!

Нам хочацца як у той казцы, каб усё ды адразу. Але ж не адразу й Вільня паўстала! Нам патрэбна карпатліва, у нечым ахвярна працаваць, і скутак абавязкова будзе. Зрэшты, ён ужо ёсьць – усё больш моладзі горнецца да беларушчыны, усё больш беларускіх знакаў у нашым штодзённым жыцьці.

Пераадолейце сябе, ўключыце праграму «Прагноз надвор'я» па БТ і вы ўбачыце геаграфічную мапу Беларусі, а таксама (увага!) уздоўж нашых палітычных межаў – суквецце з чатырох нашых знакавых этнічных местаў, якія сёньня належаць іншым дзяржавам – Беласток, Вільня, Даўгаўпілс (Дзьвінск) і Чарнігаў. Мусіць, некаму на тэлевізіі моцна ўелася ў памяць этнаграфічная мапа Яўхіма Карскага. Закінеце, дробязь! Але ж прыемная...

А ці памятаеце слынныя показкі пра кубачак гарбаты і філіжаначку кавы? А вось у адным з нашых мястэчак на шыбе цэнтральнай прадуктовай крамы я на ўласныя вочы бачыў вялізныя літары ГАРБАТА.

А калі хто з вас езьдзіў електрычкай у кірунку Барысава ці Воршы, мог ня раз чуць як машыніст робіць абвесткі на прыгожай беларускай.

Адным словам, варта моцна схацець і беларушчына ўзбуяе.

А «Пульс Меншчыны» – гэта цаглінка ў наш супольны фронтаўскі і шырэй – беларускі дом. Хіба не цікава даведацца, чым жывуць фронтаўцы ў Жодзіне і Маладэчна, Бабры і Мар'інай Горцы, Барысаве і Нясьвіжы, Слуцку і Бярэзіне? Хіба не цікава як пракамэнтуе адну й тую ж падзею Аляксей Лапіцкі, Алесь Васьковіч, Анатоль Аскерка і Алесь Капуцкі?

Фронтаўцы заўсёды вылучаліся моцным пачуцьцём салідарнасьці. А салідарнасьці ніколі не бывае замала, і гэтым бюлетэнем мы будзем яе толькі мацаваць.

Дык каб пачуваліся добра і ўпэўнена, трымайма руку на «Пульсе Меншчыны»!

**Рэдакцыя**

# АНОНС



Гутарка *з Алесем Капуцкім*

чытай на старонках 2-4



Справа *Андруся Аляхновіча* сёньня

чытай на старонцы 4



*гутарка з Алесем Капуцкім*

# «БАЧУ МАЛАДЗЭЧНА ЎНІВЭРСЫТЭЦКІМ МЕСТАМ...»



*Алесь Капуцкі*

*Адзін з найбольш слынных і паважаных фронтаўскіх лідэраў Менскай вобласьці Алесь Капуцкі зычліва пагадзіўся даць інтэрвію ў першы нумар «Пульсу Меншчыны».*

**Алесь, дзе й калі Ты нарадзіўся, хто Твае бацькі?**

Нарадзіўся я ў 1962 годзе перад Новым годам (27 сьнежня) у раённым цэнтры Маладэчна. Бацькі – звычайныя людзі, рабочыя. Бацька працаваў шафёрам, маці – швачкай на тагачаснай фабрыцы "Камсамолка".

**Якую маеш адукацыю?**

Вышэйшую. У 1985 годзе скончыў Беларускі тэхналягічны інстытут па спэцыяльнасьці машыны і мэханізмы лясной і дрэваапрацоўчай прамысловасьці, прафэсія – інжынэр-мэханік.

**Як Ты далучыўся да палітычнага жыцьця, як прыйшоў у Фронт?**

*Слова трыбуна*



У 1983 годзе я пазнаёміўся ў Менску зь беларускай арганізацыяй "Беларуская майстроўня", актыўнага ўдзелу не прымаў, але кантакт падтрымліваў. У пачатку 1987 году пазнаёміўся зь вядомым маладэчанскім краязнаўцам Генадзем Каханоўскім, праз якога пазнаёміўся з кіраўніком мясцовага нацыянальна-культурнага асяродка "Беларуская хатка" Міхасём Казлоўскім. У тую ж пару падтрымліваў сувязь зь менскай "Талакой", прымаў удзел у некаторых ладжаных ёю мерапрыемствах. Увосень 1987 году быў адным з заснавальнікаў "нефармальнай" суполкі "Крывіч", якая аб'ядноўвала нацыянальна-сьведамую моладзь ды прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі Маладэчна. Большасьць актывістаў "Крывіча" потым улілася ў БНФ "Адраджэньне". У 1988 годзе узяў удзел у II Вальным Сойме беларускіх суполак, які прайшоў у Вільні. Затым 19 кастрычніка таго ж году прысутнічаў у Доме кіно ў Менску на устаноўчым сходзе "Мартыралёгу Беларусі" і тамсама пры стварэньні Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Стварыў першую суполку падтрымкі БНФ на Маладэчанскім заводзе тэхналягічнай аснасткі, дзе тады працаваў. Натуральна, быў дэлегатам Устаноўчага зьезду БНФ "Адраджэньне" у Вільні. Стварыў арганізацыю Фронта ў Маладэчне. Ад 1996 году абіраўся сябрам Сойму БНФ "Адраджэньне" (Партыі БНФ). У палітычнай дзейнасьці маёй былі і ўзьлёты, і заняпады. Вельмі актыўная дзейнасьць была ў канцы 80-х – пачатку 90-х, калі адносна невялікая колькасьць сябраў "Крывіча", а затым БНФ ладзіла вялікія агульнагарадзкія мітынгі, пікеты, зборы подпісаў, выпускалі друкаваную прадукцыю (улёткі, бюлетэні), паспрыялі абраньню даволі дэмакратычнага на той час гарадзкога Савета дэпутатаў. Гэты ўздым працягваўся прыкладна да 1992 году, калі Вярхоўны Савет не дапусьціў правядзеньня рэфэрэндуму па свайму пераабраньню, за які было сабрана ледзь не паўмільёны подпісаў. Затым быў спад аж да прэзыдэнцкіх выбараў. Пік новага ўздыму прыйшоўся на 1995-96 г.г., калі Лукашэнка пачаў праводзіць выразна антыбеларускую палітыку і ў сувязі з выбарамі ў Вярхоўны Савет XIII скліканьня. Я асабіста балятаваўся ў дэпутаты, і ў 95-ым пры першым туры галасаваньня сярод 8-мі кандыдатаў набраў найбольшую колькасьць галасоў і разам з кандыдатам-камуністам мусіў выйсьці ў II тур, які ня быў прызначаны па віне акруговай камісіі, якая няправільна падлічыла колькасьць выбарцаў у акрузе, што было прызнана самой камісіяй, але Цэнтарвыбаркам не захацеў пераглядаць вынікі.

**Цябе ў чарговы раз абралі сябрам Сойму БНФ "Адраджэньне". Як успрымаеш гэтую пасаду: як дадзенасьць ці высокую ацэнку сваіх фронтаўскіх заслугаў?**

Успрымаю як ускладзеную на мяне адказнасьць і давер, які стараюся ў меру сваіх магчымасьцяў апраўдаць, хоць, магчыма, і не заўсёды атрымоўваецца ў сілу розных аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынаў.

**Ці ўплываюць "соймаўскія пагоны" на рост Твай-**

**го прэстыжу як кіраўніка рэгіянальнай арганізацыі?**

Думаю ўплываюць, але нязначна, бо людзі справядліва расцэньваюць іх як мой абавязак да большай працы.

**Калі назіраўся найбольшы прыток і адток актывістаў у маладэчанскія фронтаўскія структуры? Як выглядае сытуацыя сёньня?**

Найбольшы прыток назіраўся ў 1994 годзе пасьля прыезду З.Пазьняка. Тады ўступіла некалькі дзесяткаў чалавек. Потым людзі ўступалі яшчэ падчас розных акцыяў і палітычных кампаніяў, праводзімых Фронтам. Сёньня адбываецца нязначны прыток новых людзей у арганізацыю і партыю. Гэта тлумачыцца тым, што Фронт ня мае магчымасьці мець у горадзе сваё памяшканьне пад штаб, куды б людзі маглі б зьвяртацца, прыходзіць. Зь іншага боку, людзі запалоханы і ня хочуць сьвяціцца сваім сяброўствам у БНФ. Гэта датычыцца нават некаторых фронтаўцаў, асабліва тых, хто працуе ў дзяржструктурах альбо займаецца прадпрыймальніцтвам. Бо здараюцца выпадкі, калі хтосьці з кіраўнікоў гарвыканкама тэлефануе начальству прадпрыемства, дзе працуе наш актывіст і патрабуе зь ім разабрацца ажно да звальненьня. Так было і падчас кампаніі байкоту 2000 году, і падчас прэзыдэнцкіх выбараў і ў іншых выпадках. У гэтым цкаваньні дапамагае і КДБ, і міліцыя. Усё гэта мы фіксуем у нашых праваабарончых цэнтрах. Вось жа ўсё гэта ў сукупнасьці і ўплывае ня надта станоўча на росьце нашай арганізацыі.

**Ацані, калі ласка, узроставы й адукацыйны ровень маладэчанскага Фронту.**

Збольшага гэта людзі сярэдняга і пэйсійнага веку, хаця ёсьць і моладзь, але яе мала (я тут не кажу пра Малады Фронт), бо моладзь сёньня больш занята здабываньнем грошай. Калі браць адукацыйны ровень, то ён досыць высокі: прыкладна 27 % сябраў маюць сярэднюю адукацыю, 35 % – сярэдне-спэцыяльную і 38 % – вышэйшую.

**У Вашым рэгіёне дзейнічае КХП-БНФ. Ці бачыш Ты ў будучым больш шчыльныя шляхі супрацы з гэтай арганізацыяй?**

Вельмі кволая структура, дзейнасьці самастойнай амаль ня бачна. Тым ня менш яны прымаюць удзел практычна ва ўсіх нашых кааліцыйных акцыях. Хацелася б, каб мы аб'ядналіся ў адзіным Руху БНФ "Адраджэньне", але адначасна заставаліся самастойнымі партыямі. Гэта можа здарыцца толькі ў двух выпадках: калі будзе воля да гэтага на ўзроўні кіраўніцтва дзвюх партыяў альбо калі гэты працэс пачне адбывацца зьнізу, на роўні тэрытарыяльных арганізацыяў.

**Зь якімі арганізацыямі найбольш супрацоўнічае маладэчанскі Фронт? Зь якімі наладзіць супрацу не атрымоўваецца?**

Супрацуем з АГП, ТБМ імя Ф.Скарыны, БХК, ПЦ "Вясна", эколягамі, натуральна, з МФ. Складаныя стасункі з БСДП (НГ), тым ня менш, спрабуем і зь імі супрацаваць, там дзе ёсьць пункты сутыкненьня.

**Наперадзе выбары ў мясцовыя Рады (Саветы). Ці багатыя пэрспэктывы ў Фронта ў Вашым рэгіёне?**

Складанае пытаньне. Ты ж ведаеш, у якія рамкі рэжым загнаў усе апазыцыйныя арганізацыі і партыі. Але, ў кожным разе, рыхтавацца мы да іх пачынаем незалежна ад таго, ці будзе прынята рашэньне пра ўдзел у гэтых выбарах альбо не. Часу яшчэ шмат і за гэты час у краіне можа здарыцца што заўгодна.

**Якімі бачыш Маладэчна й Беларусь бяз Лукашэнкі?**

Маладэчна – заможным, эўрапейскім горадам з разьвітой эканомікай і квітнеючай культурай. Яшчэ маю вялікую мару, каб Маладэчна стала ўнівэрсытэцкім горадам. Наш горад мае вялікі патэнцыял, але пры гэтым рэжыме ён ня можа быць раскрытым, як, зрэшты, і патэнцыял усёй краіны. А Беларусь бачу незалежнай і нэўтральнай, з эканомікай, заснаванай на высокіх тэхналёгіях. Краінай, дзе чалавек будзе пачувацца вольна, мець усе ўмовы для самарэалізацыі і бачыць пэрспэктыву для няспыннага паляпшэньня свайго жыцьцёвага роўню і сваіх нашчадкаў, а ня думаць, як куды зьехаць, як гэта адбываецца сёньня. І яшчэ – краінай хрысьціянскай, а не савецкай, як цяпер.

**Пяройдзем да асабістага. Каго чытаеш?**



*Дзень Канстытуцыі, 15 сакавіка 2001 г., Маладэчна*

# «БАЧУ МАЛАДЭЧНА ЎНІВЭРСЫТЭЦКІМ МЕСТАМ...»

*юбілейныя віншаваньні*

*у Маладэчна*

65 год

*Дубіцкаму Віктару 01.01.37;*

55 год

*Хвосьціку Аляксею 02.01.47*

*Чурко Яўгену 11.01.47;*

35 год

*Станкевіч Людзьміле 03.01.67;*

20 год

*Сянько Руслану 25.01.72*

*у Крупкі*

40 год

*Аляхновіч Натальлі 05.01.62;*

*у Барысаў*

55 год

*Туркот Людзьміле 05.01.47;*

*у Жодзіна*

20 год

*Ляшкевічу Сержуку 19.01.82;*

Уладзімера Караткевіча, Уладзімера Арлова, Вітаўта Чаропку, Генрыка Сянкевіча, Стывэна Кінга.

**Найулюбёныя літаратурныя творы...**

"Каласы пад сярпом тваім" Караткевіча і "Quo vadis" Сянкевіча.

**Што найбольш падабаецца з кіно?**

"Чужая бацькаўшчына" па рамане Вячаслава Адамчыка, "Адважнае сэрца", "Ісус".

**Якую музыку слухаеш?**

У залежнасьці ад настрою – розную: ад клясыкі да цяжкога року, але часьцей люблю слухаць "Dire Straits", "Space", "Песьняры" (узору 70-х, беларускамоўныя творы), "Краму", Віктара Шалкевіча, Віктара Цоя.

**Якія газэты чытаеш? Якая зь іх найулюбёная?**

Чытаю "Нашу Свабоду", "Нашу Ніву", "Рэгіянальную газету", часам "Комсомолку-толстушку". Найулюбёная – "Наша Ніва".



*Шэсьце ў Маладэчна*

**У якіх краінах хацеў бы павандраваць, а ў якіх – не?**

Каб была магчымасьць, хацеў бы аб'ехаць увесь сьвет.

**Месца, дзе Табе найбольш утульна...**

Дома ў Маладэчне.

**Як праводзіш вольны час?**

Хаджу ў басэйн, сауну, чытаю, гляджу відэа, сяджу за кампутарам.

**Сяброўствам ці знаёмствам з кім ганарысься?**

Іх так шмат, што нікога ня буду называць канкрэтна.

**Твае таленты, пра якія ніхто не здагадваецца...**

Таленты ня трэба (грэшна) хаваць або закопваць у зямлю.

**Жыцьцёвае крэда (у адным сказе).**

Не рабі іншаму таго, чаго сабе не пажадаеш.

**Дзякуй за гутарку!**
**Гутарыў Сяржук Салаш**

# БЯЗЬ ЗЬМЕНАЎ

*справа Андруся Аляхновіча*

***Як «бязь зьменаў» можна акрэсьліць судовую справу крупскага настаўніка, лідэра мясцовай фронтаўскай арганізацыі Андруся Аляхновіча, які за выбары быў звольнены з працы.***



*Андрусь Аляхновіч*

«19 лістападу адбыўся райсуд, – распавядае А.Аляхновіч, – які не задаволіў мой іск. Фактычна, гэтак была падтрыманая пазыцыя мясцовай улады. 13 сьнежня была разгледжаная скарга ў Менскім аблсудзе, які цалкам аказаўся на баку раённага.

28-29 сьнежня не была задаволеная і скарга на пастанову адміністратыўнай камісіі Крупскага райвыканкаму ў райсудзе.

Відавочна, гэта палітычны перасьлед. На райсудзе і аблсудзе гульня вялася ня ў праўным полі. Усе аргумэнты райвыканкаму былі ў плашчыні палітыкі, маўляў, я ўцягваю моладзь у палітычную дзейнасьць. Дый скараны я па адміністратыўным кодаксе, але ж у ім няма аніводнага палітычнага артыкулу.

Зараз я падаю абскарджаньне рашэньня аблсуду ў Вярхоўны Суд, дзе маю спадзеў абараніцца, тым больш, што ступень незалежнасьці гэтай судовай установы ад раённага звяна чыноўнікаў вышэйшая.»



МЕНШЧЫНЫ ПУЛЬС
Бюлетэнь раённых і гарадзкіх Радаў БНФ «Адраджэньня» Менскай вобласьці
Рэдакцыя — Алег Скатарэнка, Сяржук Сацук, Сяржук Салаш
Наклад 299 асобнікаў
За сапраўднасьць фактаў адказваюць аўтары зьмешчаных тэкстаў.

Кантактуй: 222120 Барысаў-15 п/с 641 - тэл. (01777)6-05-64 - sah@crossrd.org.by